# З 55-ГОДДЗЕМ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ!

РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 35 (7848) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 6 мая 2000 г. Цана 25 руб.

## УВАЖАЕМЫЕ ВЕТЕРАНЫ ВЕЛИКОЙ ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЫ – ФРОНТОВИКИ, ПАРТИЗАНЫ, ПОДПОЛЬЩИКИ И ТРУЖЕНИКИ ТЫЛА!

*От имени районного исполнительного комитета и районного Совета депутатов сердечно поздравляю Вас с дорогим для* ***всех жителей нашей республики праздником – 55-летием Великой Победы советского народа над немецко-фашистскими захватчиками.***

*В тяжелые для Беларуси времена Вы, воюя на фронтах, принимая участие в подпольном и партизанском движении, самоотверженно, не жалея сил и здоровья, трудясь в тылу, показывали всему миру образцы непревзойденного мужества и патриотизма. Ваши героические подвиги во время Великой Отечественной войны не позволили захватчикам покорить нашу землю, превратить белорусов в безмолвных рабов.*

*В Костюковичском районе проживает 375 ветеранов и инвалидов – участников Великой Отечественной войны, 50 узников фашистских концлагерей, 165 семей погибших солдат Великой Отечественной войны. Желаю Вам здоровья, долгих лет жизни и мирного неба над головой.*

*Местные органы власти будут делать все необходимое, чтобы в этих сложных экономических условиях материально и морально помочь участникам Великой Отечественной войны, которые заслужили особую заботу и внимание со стороны государства и всего общества.*

***С праздником Победы Вас, дорогие ветераны и уважаемые жители района!***

***Михаил БОРИСОВ,***
***председатель районного исполнительного комитета.***

# Подвиг ваш бессмертен

В 55-й раз приходит на землю Беларуси мирная весна, весна без грома артиллерийской канонады, свиста пуль, крови и страданий. С годами все отчетливее и глубже раскрывается величие и историческое значение нашей Победы.

Народ Беларуси никогда не забудет день 22 июня 1941 года, когда мирная жизнь государства была прервана вероломным нападением гитлеровских захватчиков. Именно в первые дни войны были охвачены пожаром Брест и Гродно, Минск и Барановичи, уже 26 июня бомбардировке повергся и город Могилёв. А в начале июля 1941 года началась героическая оборона города, продолжавшаяся более трёх недель.

Был уже занят и оккупирован Смоленск, а Могилёв, истекая кровью, продолжал сражаться.

Летом 1943 года гигантская битва на Курской дуге сломала окончательно хребет гитлеровской Германии. После этой битвы враг навсегда утерял стратегическую инициативу и был не в состоянии противостоять Красной Армии.

В сентябре 1943 года началось освобождение земли многострадальной Беларуси. 28 сентября были освобождены Костюковичи, а к концу 1943 года – Кричев, Горки, Мстиславль и многие другие города, посёлки и сельские населенные пункты Могилёвщины.

Войну завершила гигантская Берлинская операция, в результате которой и была окончательно разгромлена гитлеровская Германия. 30 апреля 1945 года над Берлином было водружено Знамя Победы.

Победа досталась нелегко. Наиболее тяжёлая доля выпала на народы бывшего Советского Союза. Невосполнимые потери понес и белорусский народ. Из 10-миллионного населения в Беларуси погибло более 3 миллионов. Полностью были уничтожены 186 городов и поселков.

Какая бездна человеческих страданий и горя стоит за этими цифрами! У нас редко можно встретить семью, в которой бы война не оставила свой трагический след. Только в нашем районе было расстреляно 846 жителей.

Многие из героев фронта и тыла времен Великой Отечественной войны известны всему миру. Других знают однополчане и земляки. Но есть еще тысячи тех, кто пал в бою, и тех, кто сейчас жив и трудится, чьи имена широко известны. Эти простые и скромные люди проявили беспримерное мужество, презрение к смерти, отвагу, ум, находчивость, непреклонную волю к Победе.

Хочу выразить слова глубокой благодарности ветеранам Великой Отечественной: В. С. Анженкову, В. С. Богачеву, В. М. Деменкову, А. К. Кастрица, М. И. Ларионову, Л. И. Макаровой, И. С. Попелеву, О. М. Саверченко и многим-многим другим, которые и сегодня прилагают все силы на благо и процветание нашей Родины. Спасибо вам за ратный подвиг, за светлое безоблачное небо.

Слава Победы нашего народа в Великой Отечественной войне никогда не померкнет. Она будет жить в веках! Вечная память погибшим! Вечная слава живым! С праздником вас, дорогие товарищи!

**Виктор КОТЛЯРОВ,**
**военный комиссар района.**

## Віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

Напярэдадні 55-годдзя Вялікай Перамогі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў інвалідаў вайны, удзельнікаў вайны, жыхароў блакаднага Ленінграда, былых вязняў фашысцкіх канцлагераў, інвалідаў з дзяцінства ў выніку ранення, кантузіі або знявечання, звязаных з баявымі дзеяннямі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, сем'і загінуўшых ваеннаслужачых, асоб, узнагароджаных ордэнамі і медалямі СССР за самаадданую працу і бездакорную воінскую службу ў тыле ворага ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Падзячныя пісьмы Прэзідэнта ў нашым раёне атрымаў 631 чалавек.

## ПРЫЁМ ВЕТЭРАНАЎ

У райвыканкаме 4 мая 2000 года быў наладжаны прыём ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з нагоды 55-годдзя Перамогі савецкага народа над гітлераўскім фашызмам. Сюды былі запрошаны і прыйшлі памаладзеўшыя, па-святочнаму апранутыя, з баявымі ўзнагародамі на грудзях і радаснымі ўсмешкамі на тварах вядомыя ў нашым горадзе і раёне франтавікі. Сярод іх знаёмыя многім заслужаныя людзі Ганна Кірылаўна Кастрыца, Ганна Міронаўна Зінькові, Іван Сцяпанавіч Грэбянькоў, Васіль Дзянісавіч Мякенькі, Іван Васільевіч Красаўцаў, Віктар Іванавіч Пашкевіч і іншыя.

Гасцей цёпла прыняў старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Рыгоравіч Барысаў у сваім рабочым кабінеце. Дарэчы, тут быў накрыты святочны стол, з пачастункамі, франтавымі сто грамамі, за які і запрасілі дарагіх ветэранаў. На прыёме былі старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Сцяпанавіч Трубчык, намеснікі старшыні райвыканкама Васіль Рыгоравіч Мар'еў, Віктар Іванавіч Сугака, іншыя адказныя работнікі.

*(Заканчэнне на 4 стар.)*



**На здымку: у час прыёму.**

## СЕСІЯ РАЁННАГА САВЕТА

Адбылася 7-я нечарговая сесія раённага Савета дэпутатаў 23-га склікання. У яе рабоце ўдзельнічалі старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў, намеснікі старшыні, кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў.

Сесія разгледзела пытанне аб мерах па паляпшэнню фінансавага становішча аграпрамысловага комплексу. З дакладам выступіла загадчыца фінансавага аддзела райвыканкама Святлана Каратцова.

На сесіі прынята рашэнне згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прадаставіць да 1 студзеня 2005 года калгасам, іншым сельскагаспадарчым і абслугоўваючым сельскую гаспадарку арганізацыям адтэрміноўку пагашэння запазычанасці па падатках (за выключэннем акцызаў), іншых плацяжах у раённы бюджэт, у тым ліку ў мэтавыя бюджэтныя фонды, якая ўтварылася на 1 студзеня 2000 года, і запазычанасці па ўказаных плацяжах, тэрмін пагашэння якой устаноўлены з 1 студзеня 2000 года. Пагашэнне гэтай запазычанасці праводзіць з 1 студзеня 2003 года па 31 снежня 2004 года штомесячна роўнымі долямі. У выпадку парушэння тэрмінаў унясення ў раённы бюджэт бягучых плацяжоў запазычанасць спаганяецца ў парадку, які ўстаноўлены заканадаўствам.

Калгасы, іншыя сельскагаспадарчыя і абслугоўваючыя сельскую гаспадарку арганізацыі вызвалены ад уплаты пені, налічанай па стану на 1 студзеня 2000 года за несвоечасовае ўнясенне плацяжоў у раённы бюджэт, у тым ліку і мэтавыя бюджэтныя фонды, адтэрміноўка пагашэння запазычанасці па якіх прадастаўляецца ў адпаведнасці з гэтым рашэннем.

Кантроль за выкананнем рашэння сесіі ўскладзены на інспекцыю Дзяржаўнага падатковага камітэта па Касцюковіцкаму раёну.

# У РАЙВЫКАНКАМЕ

2 мая 2000 года на планёрцы ў райвыканкаме, а затым адначасова на пасяджэнні раённага штаба і аператыўнай вытворчай нарадзе былі абмеркаваны пытанні арганізацыі і павышэння тэмпаў яравой сяўбы ў калгасах. Прысутнічалі кіраўнікі гаспадарак, прадпрыемстваў і арганізацый, раённых служб, работнікі райсельгасхарчу, члены раённага выканаўчага камітэта, дэпутаты райсавета, старшыні сельвыканкамаў.

Звяртаючыся да прысутных, старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў сказаў, што прычынай склікання нарады стала рэзкае зніжэнне засеяных плошчаў за апошнія дні. Многім калгасам спатрэбіцца ад 10 да 16 дзён, каб завяршыць сяўбу, калі не прыняць дзейсных неадкладных мер. А, між іншым, стаіць задача пасеяць усе яравыя культуры да 9 мая.

Нізкія тэмпы сяўбы можна растлумачыць неарганізаванасцю работ, стратай часу ў сувязі з вядомымі святамі, калі людзі не працавалі на палях. Да таго ж малапрадукцыйна выкарыстоўвалася тэхніка, не была наладжана ўсюды яе двухзменная работа. Шмат машын прастойвала па тэхнічнай няспраўнасці. Аслабілі дапамогу калгасам шэфствуючыя калектывы горада.

На адставанне раёна па правядзенню сяўбы ў вобласці ўказаў старшыня абласнога выканаўчага камітэта Міхаіл Дражын, які наведаў шэраг касцюковіцкіх калгасаў. Ён падкрэсліў, у прыватнасці, што ў наш раён нядаўна прыслана 23 новыя трактары "Беларусь" па распараджэнню Прэзідэнта рэспублікі. Лагічна было чакаць павелічэння аб'ёмаў пасяўных работ, чаго пакуль не назіраецца. Губернатар звярнуў увагу на нізкую патрабавальнасць намеснікаў старшыні райвыканкама да кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак за выкананне ўскладзеных на іх абавязкаў.

Былі заслуханы тлумачэнні ўсіх без выключэння старшынь калгасаў. Па словах кіраўнікоў "Прагрэса", "Парыжскай камуны", "Дуброва" Фёдара Жукава, Аляксандра Міхеенкі, Уладзіміра Казлова, тут завяршаецца сяўба збожжавых культур 3 мая, астатніх яравых – да 9 мая. Хлебаробы стрымліваюць сваё абяцанне выканаць пастаўленыя патрабаванні – завяршыць пасяўную ў аптымальныя тэрміны. На іх варта раўняцца ўсім працаўнікам аграпрамысловага комплексу раёна!

Што датычыць кожнай асобнай "сярэдняй" і "слабай" гаспадаркі, яны вызначылі свае арыенціры і іх прытрымліваюцца. Адметна, што ніводная з іх не планує выйсці за рамкі ўстаноўленага часу і будзе фінішаваць 9-10 мая. Каб намечанае стала рэальнасцю, патрэбна максімальнае напружанне сіл. Неабходна з высокай аддачай выкарыстаць сельскагаспадарчую тэхніку і час – такі дарагі зараз.

І, безумоўна, важна, каб шэфствуючыя прадпрыемствы і арганізацыі не падводзілі на завяршальным этапе і пасадзейнічалі ва ўсім хлебаробам калгасаў. А ўзаемаразуменне і падтрымкі тут часам вельмі не хапае. Скажам, ААТ "Аграпрамтэхэнерга" дало калгасу імя Калініна не ўсё што магло. Па розных прычынах прастойвалі энерганасычаныя трактары ДБУ-37, прадпрыемства меліярацыйных сістэм, ПМК-90.

*(Працяг на 4 стар.)*




# Ваенны авіямеханік



***Набліжаецца Дзень Перамогі. Для беларускага народа і яго абаронцаў гэта дата мае вялікае значэнне. Напярэдадні свята давялося сустрэцца і пагутарыць з ГРЭБЯНЬКОВЫМ Іванам Сцяпанавічам – чалавекам, які прайшоў праз выпрабаванні вайной.***

**— Іван Сцяпанавіч, калі Вас прызвалі ў армію, і дзе праходзіла ваша служба?**

— Восенню 1939 года, адразу пасля заканчэння сярэдняй школы, быў прызваны ў армію і накіраваны ў Сталінградскае лётнае вучылішча, але адразу лётчыкам стаць не ўдалося, так як набор у гэта вучылішча быў завершаны. У чэрвені 1941 года трапіў у Армавірскае ваеннае авіяцыйнае вучылішча, але яго эвакуіравалі і ўсю групу накіравалі ў горад Вольск, у першае авіяцыйнае вучылішча авіямеханікаў, якое закончыў 1 сакавіка 1942 года. Пасля заканчэння вучылішча быў накіраваны ў шосты запасны авіяцыйны полк, 36 авіяцыйнай дзівізіі войск супраць паветранай абароны. Спачатку было вельмі цяжка, бо ў полк паступілі новыя самалёты, канструкцыю якіх раней не вывучалі. Да пачатку мая 1942 года фарміраванне палка было завершана, і ён трапіў на фронт. Спачатку базіраваліся ў горадзе Тамбове, затым у г. Мічурынску.

**— Што адчувалі, калі ішлі ў першы бой, і дзе ён праходзіў?**

— Наша армія наступала на захад. Ішлі баі за горад Курск. Там мне і давялося па-сапраўднаму адчуць, што такое вайна. Я ўдзельнічаў у баях на Курскай дузе і ажыццяўляў супрацьпаветраную абарону войск цэнтральнага Варонежскага і Бранскага франтоў.

**— Іван Сцяпанавіч, дзе Вы сустрэлі доўгачаканую перамогу?**

— Перамогу я сустрэў у Польшчы, у крэпасці Модлін. Ішлі цяжкія баі, фашысты былі азлобленыя, бо адчувалі, што перамога не на іх баку. Таму яны трымаліся за кожную вёсачку, за кожную вуліцу, за кожны дом. Нам дапамагло перамагчы ворага тое, што мы трымаліся разам.

**— Якія ўзнагароды Вы маеце?**

— У 1943 годзе атрымаў першую баявую ўзнагароду – медаль "За баявыя заслугі" за забеспячэнне выпуску баявых самалётаў у перыяд баёў на Курскай дузе. У 1944 годзе быў узнагароджаны ордэнам "Чырвонай зоркі", а затым – медалямі "За вызваленне Варшавы", "За перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне ў 1941-1945 г.г." У мірны час атрымаў ордэн Айчыннай вайны І-й ступені.

**— Скажыце, калі ласка, а як склаўся далейшы лёс пасля вайны?**

— Пасля перамогі над фашыстамі вярнуўся на радзіму. У 1946-1947 гг. працаваў у Хоцімску. З кастрычніка 1947 г. па 1949 г. быў другім сакратаром райкама камсамола, а затым – загадчыкам аддзела культуры Хоцімскага райвыканкама, а ў снежні 1949 года -- накіраваны на курсы партыйных работнікаў, якія закончыў 15 снежня 1950 года.

У 1960 годзе паступіў вучыцца (завочна) ў Маскоўскую Вышэйшую партыйную школу, якую закончыў у 1965 г., ужо працуючы сакратаром-арганізатарам вытворчага ўпраўлення сельскай гаспадаркі Касцюковіцкага раёна, адкуль і быў пераведзены на работу ў Касцюковіцкі райкам партыі.

У 1971 годзе, як дэпутат раённага Савета, быў выбраны сакратаром выканкама Касцюковіцкага раёна. На гэтай пасадзе працаваў да выхаду на пенсію.

**Я падзякавала Івану Сцяпанавічу за размову, пажадала ўсяго найлепшага і развіталася. Пакуль я ішла дадому, перад вачыма стаяў вобраз гэтага чалавека. Колькі выпрабаванняў выпала на яго лёс, колькі прыйшлося перанесці страт і расчараванняў! Але нягледзячы на ўсё гэта, ён не страціў былога аптымізму, застаўся працавітым і руплівым чалавекам.**

**Ветэранаў з кожным годам становіцца ўсё менш і менш. Таму мы павінны шанаваць іх і памятаць пра іх заўсёды, а не толькі ў дзень свята.**

**Ірына ХОМЧАНКА,**
**член прэс-клуба.**

**На здымку: І. С. ГРЭБЯНЬКОЎ.**
**(Фота з сямейнага альбома).**

# У ТЫЛЕ ВОРАГА

Пісаць аб незнаёмым чалавеку – справа вельмі цяжкая, а яшчэ больш – адказная. Узяўся за яе па дзвюх акалічнасцях. Па-першае, чалавек гэты – ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны і ўзрост яго вельмі паважаны – хутка споўніцца 80. А жыццё ж чалавечае – не безразмернае, і час няўмольны, і трэба паспець! Па-другое, ёсць вялікае жаданне зрабіць прыемнае гэтаму паважанаму чалавеку і павіншаваць яго з 55-годдзем Перамогі і з асабістым юбілеем – 80-годдзем з дня нараджэння. Супадзенне вельмі важнае і рэдка сустракаецца ў жыцці.

Са слоў дачкі Д. Ц. Немянкова Ларысы Дзмітрыеўны, якая жыве ў Маладзечна і працуе старшым інспектарам па кадрах аддзела аб'яднання "Ахова" пры МУС Беларусі, аўтару гэтых радкоў вядома многае з біяграфіі ветэрана вайны і працы.

Нарадзіўся Дзмітрый Цімафеевіч у далёкім 1920 годзе. Войны ішлі адна за адной, мяняліся ўлады. Палессе – заходняя частка Беларусі, дзе перад вайной апынуўся Дзмітрый Немянкоў, было тэрыторыяй буржуазнай Польшчы. Беларусы для той былі не інакш, як быдлам. Нягледзячы на шматлікія пратэсты і падпольную барацьбу, палякі здзекаваліся над насельніцтвам: забаранялі мову, насільна апалячвалі, зачынялі школы, пабудавалі турмы, нават... канцлагер у Бярозе-Картузскай. Жыць было цяжка. Усё гэта прайшло праз душу і сэрца Дзмітрыя Цімафеевіча.

Да Вялікай Айчыннай вайны ён вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце і адначасова працаваў у пачатковай школе вёскі Суціна Пухавіцкага раёна. А ў час ваеннага ліхалецця настаўнік апынуўся ў самым полымі ўсенароднай барацьбы – партызанах. Родным домам стаў для Дзмітрыя Цімафеевіча палескі лес. На ўсё жыццё засталася ў яго памяці песня беларускіх партызан, у якой ёсць такія словы: "Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры, вас ніколі ў жыцці не забыць".

Тры гады Дзмітрый Немянкоў знаходзіўся ў партызанскім атрадзе, не раз глядзеў у вочы смерці. Быў паранены і кантужаны. Яго першую сям'ю – жонку, дачку і бацькоў жонкі — немцы расстралялі.

Калі закончылася вайна, Дзмітрый Цімафеевіч працягнуў працу ў школе. На гэты раз у родных Касцюковічах. Сорак гадоў ветэран настаўнічаў тут. Многія з былых выпускнікоў і сёння памятаюць і добрым словам успамінаюць аднаго з любімых настаўнікаў – выкладчыка фізкультуры і пачатковай ваеннай падрыхтоўкі Д. Ц. Немянкова. Гэта ён даў пуцёўку ў нялёгкае, але цікавае жыццё многім кадравым ваеннаслужачым і проста грамадзянам Бацькаўшчыны. Чатырнаццаць ордэнаў і медалёў за баявыя заслугі і добрасумленную працу ў мірны час, шмат розных грамат і дыпломаў – такі архіў ветэрана. Калі дазваляла здароўе, Дзмітрый Цімафеевіч заўсёды быў у першых радах у справе ваенна-патрыятычнага выхавання моладзі, у любой грамадскай справе. Ён з'яўляўся актыўным удзельнікам калектыву мастацкай самадзейнасці горада, удзельнічаў у розных пастаноўках, у прыватнасці, выконваў галоўныя ролі ў сцэнках "Вяселле ў Малінаўцы", "Тарас на Парнасе" і іншых.

З вялікай любоўю і павагай адносяцца да Дзмітрыя Цімафеевіча дзеці: сын Анатоль, дочкі Ларыса і Зоя. Сёння яны самі ўжо бацькі – маюць дзяцей, унукаў. Дарэчы, другая жонка Немянкова Ніна Іванаўна рана пайшла з жыцця – у няпоўных 35 гадоў, пакінуўшы на руках мужа 3 маленькіх дзяцей. Гадаваць Дзмітрыю Цімафеевічу малых дапамагала сястра жонкі – Паліна Іванаўна. Яна замяніла дзецям маці.

Хутка ляціць час. Старэюць ветэраны, радзеюць іх рады. Вось і Д. Ц. Немянкоў ужо чацвёрты год прыкаваны хваробай да ложку. Але не абдзелены ён увагай і клопатам. Малодшая дачка ветэрана – Зоя Дзмітрыеўна забрала яго да сябе. З любоўю і пяшчотай даглядае бацьку. І як не цяжка бачыць штодзённа ў ложку роднага чалавека, дачка, як і іншыя яго дзеці і ўнукі, жадае яму даўгалецця.

Памяць аб подзвігу тых, хто на сваіх плячах вынес увесь цяжар вайны, не згасне. Будзем жа пры жыцці шанаваць іх за тое, што адваявалі нам свабоду, далі магчымасць выхоўваць дзяцей пад мірным небам.

**М. СТАНКЕВІЧ,**
**г. Маладзечна.**

**На здымку: Д. Ц. НЕМЯНКОЎ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# *Внесла свою лепту*

*Мою бабушку зовут Наталья Фёдоровна Михасёва. В годы Великой Отечественной войны она была военным врачом и работать ей пришлось в поезде-госпитале с первого дня войны до последнего. Много раненых солдат прошло через её добрые, умелые руки. Она зашивала раны, оперировала, доставала осколки снарядов, пули. Много человеческой боли и страданий видела бабушка на войне.*

*В госпитале не хватало рабочих рук. Врачам и медсестрам приходилось самим стирать бинты, дезинфицировать шприцы и все операционные инструменты. Операции делали при фонарях под бомбёжками. Боролись за каждую человеческую жизнь. Старались как можно больше вылечить раненых солдат.*

*Сейчас моей бабушке уже 80 лет. Немного осталось однополчан, которые вместе с бабушкой служили в поезде-госпитале.*

*Каждый год в День Победы она несет цветы к могиле Неизвестного солдата.*

*Я благодарен бабушке за то, что она внесла свою лепту в великое слово "Победа".*

***Валентин ПОНЕДЬКО,***
***ученик 4 "А" класса СШ № 3.***




# Даніна памяці

Стала ўжо добрай традыцыяй у СШ № 1 напярэдадні Дня Перамогі, каля мемарыяла загінуўшым воінам прымаць у піянеры малодшых школьнікаў.

Вось і сёлета прыйшлі рабяты 4-х класаў гэтай школы да помніка разам са сваімі настаўнікамі, важатай, дзе ім ва ўрачыстай абстаноўцы павязалі чырвоныя гальштукі іх шэфы-васьмікласнікі і госці.

Уступаючы ў рады Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі, юныя члены кляліся быць добрымі, сумленнымі, заўсёды памятаць тых, хто загінуў за іх светлае будучае.

Рабят павіншавала завуч пачатковых класаў І. А. Бялова. А тыя ў сваю чаргу расказалі аб юных героях-партызанах, аб іх подзвігах.

Напрыканцы работы і дарослыя ўшанавалі памяць загінуўшых мінутай маўчання і піянеры – салютам.

Увогуле ў гэтыя перадсвяточныя дні ў СШ № 1 праводзілася "Вахта памяці", праходзілі ўрокі мужнасці, памяці, урокі-рэквіем, работы сустракаліся з ветэранамі ВАВ, аддаючы даніну павагі воінам-вызваліцелям і памяці тых, хто не вярнуўся з крывавых баёў.

**Ул. інф.**




# БЫЛО ЯМУ ТОЛЬКІ 17

Нялёгкі лёс выпаў на долю нашых дзядоў, бацькоў, многім з якіх у той, 41-ы, было толькі 17-18 гадоў. Юнакі, якія не зведалі як след прыгажосці жыцця, сталі на абарону рубяжоў Айчыны. Многія з іх не вярнуліся з тых крывавых баёў, склаўшы свае галовы за наша светлае будучае.

Савелію Мурашкіну ў 41-ым таксама толькі што споўнілася сямнаццаць. Ён, вясковы хлопец, вучыўся ў Ленінградзе самай мірнай прафесіі на зямлі – будаўніка, калі грымнула вайна.

З гісторыі нам добра вядома, як імкліва захопліваліся ворагам беларускія гарады і вёскі, як фашыстам хацелася ўвайсці ў Маскву. На шляху ворага быў Ленінград, абаронцы якога стаялі насмерць, але не здавалі горада. Горад трапіў у блакаднае кальцо. Усе, хто мог трымаць зброю, выйшлі на яго абарону.

Савелія з такімі ж, як ён, равеснікамі выклікалі ў ваенкамат.

— Ну што, Мурашкін, -- звярнуўся да яго ваенны камісар. – Радзіму будзем абараняць?

— Будзем, — адказаў юнак.

Вядома, ён мог бы і адмовіцца, бо па сваіх гадах не падыходзіў пад мабілізацыю. Але С. Мурашкін не з такіх. Ён лічыў сваім абавязкам быць у страі абаронцаў. Таму і напісаў заяву, што ідзе добраахвотна.

І вось ён – малады баец. Хуткатэрміновая падрыхтоўка, фарміраванне, а трапіў Савелій Мітрафанавіч у танкавы полк, і адпраўка на паўночны захад ад Ленінграда. Вось першае заданне: акружыць 16-ю эсэсаўскую дывізію, якая праз Ленінград ішла на Маскву. Спыніць яе трэба было, чаго б гэта не каштавала. І яны спынілі немцаў, разбілі ўшчэнт эсэсаўскіх катаў.

Пасля кароткай перадышкі войскі, у саставе якіх быў і Савелій Мурашкін, накіроўваюць назад пад Ленінград, на прарыў блакады. Баі ішлі цяжкія, два разы трапляў салдат у шпіталь, балазе, раненні атрымаў лёгкія, і зноў вяртаўся ў строй.

У 1943 годзе блакада была прарвана. Вядома, каштавала яна многім жыцця. Гінулі сябры Савелія, гарэлі ў танках. Шмат і баявых машын страцілі. Але ўсё ж адваявалі горад, выратавалі застаўшыхся яго жыхароў ад галоднай смерці.

— Відовішча ў горадзе было страшнае. Без слёз нельга было глядзець. Злосць закіпала ў жылах байцоў, — успамінае ветэран. – Яшчэ мацней хацелася біць гадаў, да апошняга.

Грудзі байца ў той час ужо ўпрыгожвалі медаль "За адвагу", "Ордэн Баявога Чырвонага Сцяга", ордэн Славы, якія ён заслужыў сваім гераізмам, адвагай.

І колькі б іх яшчэ было, але цяжкае раненне ў тым жа, 43-м, прыкавала С. Мурашкіна надоўга да шпітальнага ложку, а затым быў вердыкт урачоў: камісаваць, бо хадзіць малады воін не мог – ногі адмовіліся падпарадкоўвацца. Накіравалі ў інвалідны дом. Да 1948 года наш зямляк знаходзіўся там. І хаця медыкі не спадзяваліся, што ён устане на ногі, але маладосць узяла сваё.

Родныя не ведалі аб Савеліі нічога, ніякіх вестак не падаваў ён ім. А той у сваю чаргу не ведаў аб іх, не ведаў аб братах, якія таксама абаранялі Айчыну, і адзін з іх загінуў.

І толькі ў 1948 годзе Мурашкін прыехаў у родныя Дзямідавічы. Слёз радасці было шмат. Успомнілі і загінуўшых.

Крыху адлачыўшы, Савелій Мітрафанавіч пайшоў уладкоўвацца на работу ў калгас. Яму прапанавалі трактар. Пасля стольких гадоў ліхалецця сеў былы салдат за штурвал мірнай тэхнікі і пачаў узнімаць пасляваенную гаспадарку, засяваць узараныя калісьці бомбамі і снарадамі землі збажынай. Шмат гадоў быў гэты чалавек брыгадзірам трактарнай брыгады. А ўсяго калгаснай справе аддаў 45 гадоў. І ў мірны час адзначаны за сваю працу медалём "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі".

Савелій Мітрафанавіч разам з жонкай Таццянай Цімафееўнай вырасцілі 5 дзяцей, усім дапамаглі набыць адукацыю. Ёсць у іх унукі і праўнукі. Ёсць і дом, які пабудаваў для ветэрана калгас, толькі ўжо няма той былой моцы і здароўя. Добра, што дапамагаюць дзеці і ўнукі.

— Не дай Бог нашай моладзі пабываць у такім пекле, пабачыць пакуты і смерць, якія дасталіся на долю людзей майго пакалення, — заўважыў на развітанне Савелій Мітрафанавіч. – А каб гэтага не здарылася, трэба працаваць і працаваць, умацоўваць нашу Айчыну ўсебакова.

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**

**На здымку: Савелій Мітрафанавіч МУРАШКІН.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# ПРЫЁМ ВЕТЭРАНАЎ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)*

М. Р. Барысаў павіншаваў ветэранаў з надыходзячым юбілеем Вялікай Перамогі, падзякаваў ім за іх ратную працу і подзвігі ў імя свабоды і незалежнасці Радзімы, пажадаў моцнага здароўя. Старшыня райвыканкама коратка азнаёміў гасцей з набыткамі раёна, ходам выканання праграмы сацыяльнага і эканамічнага развіцця, правядзеннем веснавой сяўбы, якую плануецца завяршыць да слаўнай даты – 9 мая. Ён падкрэсліў, што органы ўлады пастаянна клапоцяцца аб ветэранах вайны і аказваюць ім канкрэтную дапамогу. Так будзе і надалей.

У сваю чаргу, госці цікавіліся, наколькі майскія маразы пашкодзілі пасевы, ці хутка будзе дабудавана раённая бальніца, задалі іншыя пытанні. На шчасце, адказаў М. Р. Барысаў, апёкаў на пасевах не выяўлена. Наконт бальніцы неўзабаве адбудзецца размова з прадстаўнікамі ўрада, якія наведаюць раён. Пакуль сродкаў на гэты аб'ект выдзелена мала. Таму будзе выказана просьба аб павелічэнні фінансавання.

Прыём прайшоў ва ўрачыстай і гасціннай абстаноўцы. Удзельнікам вайны былі ўручаны памятныя знакі "Ветэран вайны 1941-1945 гадоў". У Цэнтры дзіцячай творчасці для франтавікоў быў дадзены канцэрт мастацкай самадзейнасці.



**Гэты здымак зроблены некалькі гадоў таму назад. Сустрэліся два ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, успомнілі аб баявых таварышах, што не дажылі да светлага дня Перамогі, зноў прайшліся ў памяці па тых шляхах-дарогах, якія адмервалі салдацкімі ботамі больш як 55 гадоў таму. І сфатаграфаваліся на памяць – М. Г. Арлоўскі і С. К. Уласенка (справа). На жаль, апошняга ўжо няма ў жывых. Міхаіл Гаўрылавіч Арлоўскі, дзякуй Богу, жывы і здаровы, наколькі гэта магчыма ў яго гады, бо ветэрану за 70. Аднак, што адметна, і сёння не губляе інтарэсу да жыцця, аптымізму гэты чалавек. Ён не можа сядзець без справы. Актыўны ўдзел прымае ў грамадскім жыцці. Міхаіл Гаўрылавіч – удзельнік мастацкай самадзейнасці – спявае ў хоры ветэранаў, што створаны пры раённым Цэнтры культуры. Ветэран добра грае на гармоніку.**

**На здымку: М. Г. АРЛОЎСКІ (злева) і С. К. УЛАСЕНКА.**
**Фота з дамашняга альбома Міхаіла Гаўрылавіча.**

55 ГАДОЎ

# Спасибо за Победу

Бывают такие мгновения в истории, которые люди переживают все вместе. Так было тогда, в 45-ом, когда весь наш народ ликовал и плакал.

Минуло 55 лет с того времени. 55-й раз мы празднуем Победу. 9 мая весь народ выходит на улицы городов и сёл чествовать ветеранов Великой Отечественной войны. А в колоннах идут люди, убеленные сединой, только ордена и медали позвякивают на груди по-молодецки. Ветераны продолжают верить в то, что всё ими пережитое – не зря, что Великая Победа – это победа добра над злом.

Это наше счастье, что они ещё живы, бодрятся и весело вышагивают в праздничной колонне. Мы гордимся ими, нашими дедами и прадедами.

Цветы, гирлянды Славы, поднятые руками молодых, ложатся сегодня к памятникам, обелискам, могилам воинов-освободителей.

"Спасибо вам за Победу, ветераны!" – повторяем и повторяем мы в этот день.

Сегодня праздник. Но завтра будут будни. Постараемся сделать так, чтобы ветеранам жилось спокойнее и уютнее рядом с нами.

**Члены кружка "Юнкор" ЦДТ.**

# У РАЙВЫКАНКАМЕ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)*

Іх кіраўнікі Міхаіл Патапенка, Пётр Білань, Рыгор Елісеенка вымушаны былі тлумачыць прычыны збояў у рабоце. Усё гэта зрабіць няцяжка, але даравать немагчыма. Не вырашана пытанне аб забеспячэнні кадрамі механізатараў калгаса "Новы быт". Ёсць віна тут шэфаў – вытворчага ўчастка Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода і лясгаса, якія не пракантралявалі дысцыпліну сваіх работнікаў.

Завяршаючы разгляд пасяўной тэмы, М. Р. Барысаў паставіў задачу перад кіраўнікамі калгасаў, раённых служб, шэфамі – завяршыць паўсюдна сяўбу збожжавых культур да 3 мая.

На нарадзе разглядаліся пытанні арганізацыі пашавага ўтрымання і павышэння прадуктыўнасці грамадскай жывёлы, закупу малака ў насельніцтва. Адзначалася, што ў калгасах "Новы быт", "Парыжская камуна" і некаторых іншых ужо перайшлі на кругласутачную пасьбу статкаў. Старшыня райвыканкама патрабаваў, каб усе гаспадаркі неадкладна арганізавалі ўтрыманне буйной рагатай жывёлы на пашы ўдзень і ўначы, забяспечылі прыбаўку надояў малака ў параўнанні з мінулагоднімі. Прычым, пасьвіцца павінна жывёла ўсіх узростаў.

Не ўсюды, як след, вядзецца збор і рэалізацыя малака з падсобных гаспадарак грамадзян. Перабоі з дастаўкай яго на малаказавод дапускаюцца ў калгасах "Кранштат", імя Калініна, "Забычанне" і некаторых іншых. Дырэкцыя завода несвоечасова вядзе аплату нарыхтаванай прадукцыі. Гэтыя і іншыя недаробкі павінны быць ухілены.

Першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Віталь Грышанаў звярнуў увагу кіраўнікоў калгасаў на выплату зарплаты калгаснікам і правядзенне разліку за атрыманую тэхніку.



## Васіль ГУБЕРНАТАРАЎ

## Навечна ў памяці

Гэты дзень. Сярод шматлікіх дат
Ён дарагі нам, самы-самы блізкі,
Як напамін аб стойкасці салдат.
Стаяць маўкліва ў парках
абеліскі.
Святочны дзень! Нямногім
сёння з вас
Прайсці па вуліцах і плошчах
давядзецца,
Хто ў той суровы, векапомны час
Не шкадаваў для шчасця свайго
сэрца.
Хто бачыў смерць нярэдка твар
у твар,
І храбрым быў, нібы сама
адвага,
Хто вынес на плячах увесь
цяжар,
І распісаўся на сцяне рэйхстага.
Ды сёння варта нам успомніць
тых,
І ім аддаць глыбокую даніну,
Хто ваяваў дзеля жыцця жывых,
За нашу долю светлую загінуў.
Ах, гэты дзень! Доўгачаканы
дзень –
Усюды рады, цёплыя сустрэчы...
Ён застанецца ў памяці людзей,
І будзе, нібы сонца, – вечны!

# Прызы пераможцу

У Касцюковічах праведзена ваенна-спартыўная гульня "Юны патрыёт" сярод школ горада. У яе праграме было шматбор'е "Здароўе", бег на розныя дыстанцыі, аперацыя "Абарона", конкурс-віктарына па гісторыі.

Пераможцай стала каманда сярэдняй школы № 3, якую рыхтаваў Уладзімір Васільевіч Кандраценка. Ёй уручаны прызы і грамата райкама Беларускага саюза моладзі.

**Генадзь СОЛАЎ.**

*Наступны нумар газеты выйдзе 13 мая гг.*

## Поздравляем!

*Горячо и сердечно поздравляем с 60-летием со дня рождения любимого мужа, дорогого отца*
***СЕВРЮКОВА Василия Кирилловича***
*(д. Мурин Бор)*

*У тебя сегодня юбилей,*
*Дай Бог тебе хорошего здоровья,*
*Пусть в очаге твоем ютится лишь покой,*
*Согретый счастьем, радостью, любовью.*
*Любовью к детям, к жизни, ко всему,*
*Что может быть прекраснее на свете.*
*Мир, дорогой наш, дому твоему*
*И долгих лет прожить на белом свете.*

***Жена, дочь Татьяна, зять Дмитрий.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения*
***УСОВУ Александру Трофимовну***

*В твой замечательный день*
*Мы не будем подсчитывать годы,*
*Пусть летит их незримая тень,*
*Прочь болезни, печаль и невзгоды.*

***Муж, сын, свекровь.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с днем рождения*
***ЕРЕМИНУ Анну Алексеевну***

*Желаем благ тебе земных,*
*Мы знаем: ты достойна их.*
*Без сна ночей твоих прошло немало,*
*Забот, тревог не перечесть.*
*Земной поклон тебе, родная наша,*
*За то, что ты на свете есть.*

***Любящие тебя дочь, зять, внуки.***

Х Х Х

*Горячо поздравляем с 70-летием со дня рождения*
***КОНДРАТЕНКО Полину Павловну***

*Пусть Бог тебя хранит –*
*Ты лучшая на этом свете,*
*Пусть счастье в дом к тебе летит,*
*Тебя сегодня поздравляют дети.*
*Спасибо за то, что растила,*
*За то, что взамен ничего не просила.*
*Спасибо за ласку, за руки твои,*
*За доброе сердце, что бьётся в груди.*

***Дочь, зять, внуки Саша, Наташа.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с 25-летием со дня рождения*
***МАРТЫНЕНКО Юрия Ивановича***

*Мы желаем тебе теплых солнечных дней,*
*Журавлиных ночей, соловьиных рассветов,*
*Мы желаем тебе лишь хороших друзей,*
*Радость встреч и хороших приветов.*
*Пусть волшебница-жизнь на хрустальный поднос*
*Позолоченный кубок поставит,*
*Полный кубок здоровья нальёт*
*И для счастья местечко оставит,*

***Коллектив физиотерапевтического кабинета райбольницы.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с 60-летием со дня рождения*
***СВЕРБИЛО Виктора Ульяновича***

*Пусть годы летят, ты не будь им подвластен,*
*Пусть из сердца добро не исчезнет вовек,*
*Здоровья тебе и огромного счастья,*
*Наш добрый, любимый, родной человек!*

***Сын, невестка, внуки.***

Х Х Х

*Горячо поздравляем с днем рождения*
***СВЕРБИЛО Марию Матвеевну***

*За твою доброту, отзывчивость, внимание*
*Мы желаем здоровья, благополучия и счастья.*
*Пусть морщинки тебя не старят и не трогает беда,*
*Пусть природа тебе подарит*
*Жизнь на долгие года.*

***Сын, невестка, внуки.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения*
***ГАЛЫНСКОГО Владимира Андреевича***

*Немало прожито на свете,*
*Седою стала голова.*
*И благодарности слова*
*Сегодня выражают дети*
*Тебе за искренность и честь,*
*За строгость и заботу,*
*За непростую жизнь, работу,*
*За то, что ты на свете есть.*
*Живи, родной, еще сто лет,*
*Душой и сердцем не старей,*
*Любовью внуков обогрей.*

***Любящие тебя жена, сыновья, невестки, внуки.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с 18-летием*
***ЖУГАРОВА Сергея Николаевича***

*Пусть этот день, как сувенир,*
*Тебе подарит вечный мир,*
*Пусть в этот день веселье льётся,*
*Пусть месяц май тебе смеётся,*
*Пусть сбудутся твои мечты,*
*Пусть будет так, как хочешь ты.*

***Любящие тебя родители, сестра Наташа, подруга Маша и друг Владимир.***

Х Х Х

*От всей души поздравляем с днем рождения*
***МОСКАЛЕВУ Валентину Николаевну***

*Хороший ты наш, дорогой человек,*
*Пусть дольше продлится твой жизненный век,*
*Здоровье и счастье к тебе пусть придут,*
*Обиды и горе пускай обойдут.*

***Муж, сын, дочери, зятья, внуки.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с золотой свадьбой*
***МОИСЕЕНКО Ивана Андреевича*** *и* ***Ольгу Ивановну***

*От всего сердца желаем вам, дорогие наши, крепкого здоровья, долгих лет жизни, чтобы еще долго-долго вы встречали нас на пороге родного дома, дарили нам тепло и ласку. Мы вас очень любим!*

***Дети, внуки, правнуки.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с днем рождения*
***ЦВЕТКОВА Александра Александровича***

*Пусть здоровье будет крепким,*
*А сердце – вечно молодым,*
*Пусть каждый день твой будет светлым,*
*Улыбка в дом приходит с ним.*

***Жена, дочь Валентина, сыновья Дмитрий, Евгений.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с 50-летием дорогую и любимую жену, мамочку, бабушку*
***ПРОЯВИНУ Анну Сергеевну***
*(п. Крапивня)*

*Сегодня день рожденья твой*
*Дай Бог тебе хорошего здоровья,*
*Пусть в очаге твоем ютится лишь покой,*
*Согретый счастьем, радостью, любовью,*
*Любовью к людям, к жизни, ко всему,*
*Что может быть прекраснее на свете,*
*Мир, дорогая, дому твоему*
*И до ста лет прожить на белом свете.*

***Муж, дети, внуки.***








**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:* *213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43* *Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:* *галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*

**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1661 экземпляр*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 5. 05. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 35*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.